Збе-рагчы і Павя-лічыць

# Дзедзіч

ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ

№5 (83) • ТРАВЕНЬ 2013

**Увага!**

*Хутка сесія - гарачы час для студэнтаў. Дзедзіч жадае сваім чытачам поспехаў на іспытах ды заліках.*

# БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ ПЕРШАМАЙ



**Упершыню за адзінаццаць год у Берасці адбылася няўрадавая дэманстрацыя, дазволеная ўладамі.**

Дэманстрацыя пачалася у 11 гадзін, калі калона, што збіралася амаль паўгадзіны, пачала рухацца па праспекце Машэрава ў бок вуліцы Леніна.

Людзі ідуць па тратуары, над галовамі лунаюць бел-чырвона-белыя сцягі, у руках плакаты, а машыны, што едуць міма, сігналяць.

Мінакі спыняюцца, некаторыя фатаграфуюць, іншыя глядзяць уважліва ды здзіўлена: як жа гэта бачыць дэманстрацыю з нацыянальнымі сцягамі пасярод Берасця, а не на забытым богам стадыёне “Лакаматыў”?

Асабліва запомніўся яскравы момант: на адным з прыпынкаў да нас звяртаецца пажылы мужчына, сардэчна паціскае дэманстрантам рукі, усміхаецца. І ў гэтым такім простым яго дзеянні столькі адчуваецца ўвагі, згоды. А калона час ад часу скандуе “Жыве Беларусь!”

…

Па прыкладных падліках арганізатараў, на дэманстрацыю прыйшло каля 200 чалавек.

Мерапрыемства аб'яднала розныя партыі і грамадскія арганізацыі: сацыял-дэмакратаў, камуністаў, БНФ, і прадстаўнікоў незалежных прафсаюзаў. Арганізатарам дэманстрацыі выступіла Брэсцкая абласная арганізацыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) (БСДП(Г)).

Мэта дэманстрацыі – святкаванне Міжнароднага дня салідарнасці працоўных у барацьбе за свае правы, аб’яднанне намаганняў грамадзян у барацьбе за свае сацыяльна-эканамічныя правы (з прычын нізкага ўзроўня жыцця насельніцтва, пастаяннага росту коштаў на тавары і паслугі).

Як адзначыў старшыня Берасцейскай абласной арганізацыі Партыі БНФ, Дзмітрый Шыманскі сённяшняя акцыя прадэманстравала еднасць прадстаўнікоў розных дэмакратычных арганізацый, якія сабраліся разам пад рознымі сцягамі:

*- Гэта кажа пра тое, што мы можам аб'яднацца для дасягнення адзінай мэты, можам знайсці агульную мову з прадстаўнікамі розных ідэалогій. Для нас гэтая акцыя – легальная магчымасць выказаць пратэст супраць сітуацыі у краіне: супраць расейскіх вайсковых баз, супраць росту коштаў на навучанне студэнтаў, супраць далейшага збяднення медыцыны, супраць адсутнасці ў народа магчымасці кантраляваць уладу. Я лічу, што сваіх мэтаў мы дасягнулі.*

Прадстаўнікі партыі БНФ выйшлі на дэманстрацыю з бел-чырвона-беламі сцягамі і плакатамі: «Народны кантроль: выбары, грошы, улада», «Цвіль у дзіцячай бальніцы: хто вінаваты?», «Сёння расейская вайсковая база, заўтра – 22 чэрвеня», «Кошт навучання у ВНУ прывязаць да ўзроўню інфляцыі».

Шэсце скончылася ў 12.00 ля фантана на плошчы Леніна, акурат насупраць будынка аблвыканкама. Напрыканцы з прамовай выступіў старшыня Берасцейскай філіі БСДП(Г) Ігар Маслоўскі.

Міліцыянты і людзі ў цівільным суправаджалі дэманстрантаў падчас шэсця, аднак трэба адзначыць, што затрыманняў ці нейкіх непаразуменняў з прадстаўнікамі ўлады не было.

**dzedzich.org**

## У НУМАРЫ:

# ПЕРАМОГУ Ў НАС АДАБРАЛІ

**Да апошняга свайго дня Васіль Быкаў вяртаўся думкамі да вайны. Для мастака Быкава вайна была пражэктарам, які высвечваў самыя глыбінныя таямніцы чалавечай душы. Аднак тэмай прозы і публіцыстыкі пісьменніка быў не толькі чалавек на вайне, але і нацыя на вайне.**




## «ЗДАБЫЎШЫ ПЕРАМОГУ, МЫ НЕ ЗДАБЫЛІ СВАБОДЫ»

*Гэтыя развагі пісьменніка прагучалі на «Радыё Свабода» 12 гадоў таму — 9 траўня 2001 году.*

«Існуе думка, што фенаменальнае, узнёслае стаўленне старэйшай часткі грамадства да мінулай вайны вызначаецца тым, што ў нашым жыцці гэтая перамога сталася подзвігам.

> ПАЗНЕЙ НЕ БЫЛО НІЧОГА БОЛЕЙ СПРАВЯДЛІВАГА, ВЫСОКАГА ПА ІДЭІ І ВЫРАЗНАГА ПА ВЫНІКУ, ЧЫМ МОЖНА БЫЛО Б ЗАДАВОЛІЦЦА, НЕ ТОЕ ШТО ГАНАРЫЦЦА.

Што б не было ўрэшце так абясцэнена, зняважана, дыскрэдытавана людзьмі або часам — хоць пяцігодкі, хоць барацьба за мір, хоць шалёная ядзерная гонка ці той жа космас, усё ў нашай гісторыі блеф, калі не злачынства. Адзінае добрае, што здзейснілі старэйшыя пакаленні ў XX стагоддзі, сапраўды была гэтая перамога над нямецкім нацызмам.

Але ўзнікаюць сумненні і ў перамозе — найперш у яе імператыўнай адназначнасці. Ад чаго яна пазбавіла чалавецтва — мы ведаем. І тое, можа быць, не падлягае сумневу.

Але што з ёю мы набылі? Усё ж кожная перамога павінная не толькі ўзяць, але і даць. Краіны пераможаныя — Нямеччына, Італія, Японія — стрывалі паразу і менавіта праз тое атрымалі магчымасць для небывалага росквіту эканомікі, свабоды і дэмакратыі. А мы, пераможцы, дагэтуль не можам дамагчыся элементарнай свабоды, не можам накарміць сябе.

> МОЖНА СКАЗАЦЬ, ШТО ЗДАБЫЎШЫ ПЕРАМОГУ, МЫ НЕ ЗДАБЫЛІ СВАБОДЫ. АЛЕ БЕЗ СВАБОДЫ ЧАГО ВАРТАЯ КОЖНАЯ БЛІСКУЧАЯ ПЕРАМОГА КОЖНАГА ГРАМАДСТВА?

А што да расейцаў, дык тыя і дагэтуль не могуць перастаць ваяваць. І за якія ідэалы? За звырадлівыя, спарахнелыя імперскія ідэалы, як і сто, і тысячу гадоў таму.

У пераможнай эўфарыі зашмат ад эмоцыяў і дужа мала ад розуму. Бо разумны, рацыянальны падыход да вайны не выгадны рэжымам, якія і тую даўнюю, вялікую перамогу прызвычаіліся выкарыстоўваць ва ўласных інтарэсах — інтарэсах антычалавечых і антыдэмакратычных. Тое ім удаецца выдатна: хоць у Расеі, хоць у Беларусі. Як доўга тое будзе адбывацца, хто ведае».

## «ПЕРАМОГУ АДАБРАЎ У НАС СТАЛІН»

*Гэты запіс быў адной з апошніх перадачаў Васіля Быкава на «Свабодзе». Яна прагучала 7 траўня 2003 году, за два дні да гадавіны Перамогі і за 46 дзён да смерці пісьменніка.*

«Я лічу, што перамогу сапраўды адабралі. І ў беларусаў, і ў расейцаў, і не толькі.

Але гэтае адбіранне адбылося адразу пасля перамогі. І адабраў яе ні хто іншы, як самы вялікі кумір гэтых народаў — „вялікі“ Сталін.

Кожныя пераможцы разлічваюць нешта здабыць у выніку перамогі, асабліва пасля такой крывавай вайны, і гэта было правільна, заканамерна.

Але што ў выніку яны атрымалі — што атрымалі народы Савецкага Саюзу?

Зноў жа тую камуністычную кабалу, тую заняволенасць і галечу, у той час як народы Эўропы — і пераможцы, і пераможаныя, дарэчы — сапраўды скарысталіся гэтай перамогай. У тым ліку і нашай перамогай.

Зноў жа, з ініцыятывы Злучаных Штатаў Амерыкі быў вылучаны план Маршала, які ўзняў Эўропу з руінаў, з гэтых самых папялішчаў, які ўдыхнуў жыццё, і якому, па сутнасці, Эўропа абавязаная і дасюль.

Але ж Сталін адмовіўся ад гэтага плану.

> ЁН ЯК ВАЙНУ, ТАК І ПЕРАМОГУ, ТАК І ПАСЛЯВАЕННАЕ АДНАЎЛЕННЕ, АДБУДОВУ ЗНОЎ ЖА ЎЗВАЛІЎ НА ПЛЕЧЫ СВАЙГО НАРОДУ. І ГЭТЫМ УВЕРГНУЎ ЯГО Ў НЕЙМАВЕРНУЮ ШМАТГАДОВУЮ ГАЛЕЧУ.

Апроч таго, яшчэ ў выніку нашай гэтай перамогі былі заняволеныя краіны так званай „народнай дэмакратыі“, усходнееўрапейскія краіны. І гэтая наша перамога яшчэ на паўстагоддзя затрымала іх натуральнае гістарычнае развіццё ў кірунку прагрэсу.

З гэтага правалу яны яшчэ дагэтуль не могуць выбрацца, мы гэта бачым на прыкладзе нашай Усходняй Эўропы. Але яны робяць спробы, усё ж даволі паспяховыя, ізноў жа пры падтрымцы міжнароднай супольнасці — Эўропы і найперш Амерыкі. А Беларусь стаіць убаку».

**Паводле: svaboda.org**

# ХТО ТАКІ ДЗЕДЗІЧ?

**Дзедзич - это областное молодежное общественное объединение. Цели и задачи организации...**




Погоди! Ты уже хочешь закончить чтение и перевести взгляд на что-то более интересное? Вот-вот, и мне хочется написать о нашей организации тоже более интересно, чем все эти шаблонные строки. Ведь на деле все так и есть: приходить в Дзедзич - это весело и интересно!

В первую очередь, ты приходишь в компанию друзей, где все общаются в непринужденной и уютной обстановке. Люди с разными увлечениями, которые учатся на разных факультетах, находят для себя место, ведь сфера деятельности у Дзедзича огромная!

Самое интересное для меня - это молодежные обмены и поездки за границу на разные летники, семинары и тренинги. Это прекрасная возможность получить новые знания и посмотреть другие города. Дзедзич предоставляет такую возможность каждому! Не важно, год-два ты в организации, или только пришел.

Но организовываем мы поездки не только за границу. В Беларуси тоже много красивых и интересных мест, и ребята, увлекающиеся историей и культурой родного края, тоже находят место для реализации. Ведь каждый участник может предлагать и продвигать свои идеи, а тут только помогут и поддержат!

Не чужда нам и экология! Мы чистили Мухавец и деревья сажали, и в экопоездки ездили. А еще мы любим кататься на великах. Слышал про кампанию «За Вело-Брест!»? Да, это тоже мы!

И газету, которую ты сейчас держишь в руках, и сайт, на который ты иногда заходишь почитать новости - это тоже делаем мы - такие же студенты, как и ты! Без специальных знаний, без специального образования и навыков. Достаточно только желания проявлять себя и энтузиазма!

Итак, если ты хочешь интересно и полезно проводить время для себя и с пользой для общества, найти себе новых друзей и классно отдыхать, реализовывать свои самые смелые идеи и просто интересно жить - тебе к нам!

**dzedzich.org**

# ВЕЛОЭКСКУРСИЯ В АГРОУСАДЬБУ (БЕЛОВЕЖСКАЯ ПУЩА)

**АРР "Дзедзич" в рамках кампании "За вело-Брест!" изучает интерес брестчан к велоэкскурсии в агроусадьбу в самом сердце Беловежской Пущи.**

***В программе:***

- велопереезд Брест-Каменец-д.Голосятино (примерно 60 км.) или электричкой до ст. Тевли, далее до д. Голосятино (20 км)
- осмотр достоимечательностей по маршруту (подробный список после выбора маршрута).

***По приезду:***

- экскурсия в деревяную церковь 1781 (д. Вежное).

***В агроусадьбе:***

- демонстрация выпекания хлеба в печи;
- демонстрация приготовления самогона;
- народные танцы, музыка, конкурсы;
- ужин (национальная кухня) (включён в общий взнос);
- ночлег (походный, понадобятся коврики-спальники).

***Цена*** (при наличии группы 20 и более человек) 100 000 рублей с каждого.

***Дата поездки:*** июнь 2013. Точная дата будет определена самими участниками (минимум 20 человек).

При обсуждении возможны любые изменения, дополнения.

Если вы хотите присоединиться к поездке нажимайте "Точно пойду" в группе в Вконтакте (https://vk.com/event53054951), или звоните 8 (029) 222-58 -22, или пишите vybor@tut.by. Присоединяйтесь!

**dzedzich.org**

## АДНЫМ РАДКОМ

# АДБЫЎСЯ КАНЦЭРТ «ДАЙ ДАРОГУ!»



**4 траўня адзін з самых вядомых берасцейскіх гуртоў адыграў гучны канцэрт у клубе Сфера.**

За вокнамі быў белы дзень, а у клубе панавала свая атмасфера. Хаця народу было не вельмі шмат, нікога – ні публіку, ні музыкаў – гэта не засмучала.

Музыкі выкладаліся па поўнай. Песня адна за адной гучалі у зале, а гледачы шалёна скакалі пад сцэнаю ды падпявалі. Час ад часу на сцэне з'яўляліся постаці, што кідаліся ў залу і потым перадаваліся на руках. Шмат хто падаў, нават праз галаву, але іх падымалі, хлопалі па плячах і зноў прыймаліся скакаць.

Канцэрт склалі старыя добрыя і вядомыя песні, такія як "Она не знала", "Прыгай в коляску", "Доля", "Чёрный дракон" ды іншыя, а таксама песні з новага альбому "Сквозь Говно". Музыкі прадставілі і новую песню пад назвай "Предсмертный хит".

Некаторыя фанаты нават добра падрыхтаваліся – час ад часу уздымалі над галовамі расцяжку "Гершоны".

У сярэдзіне канцэрта на сцену падняўся мастак Анатолій Мелеховец, які прэзентаваў Юрыю Стыльскаму партрэт, напісаны маслам.

Музыкі адыгралі доўгі двухгадзінны канцэрт. Але ён скончыўся: уключылі крыху больш святла – фанаты выціскалі майкі, Стыльскі рабіў медыятары з пластыкавых карткаў гледачоў, а на выхадзе публіка гучна дзялілася ўражаннямі ад канцэрту.

**dzedzich.org**

# ТОП-7 САМЫХ ПАПУЛЯРНЫХ МУЗЕЯЎ БЕЛАРУСІ

**У Нясвіжскі палац за год прыехала амаль паўмільёна турыстаў.**

Белстат апублікаваў статыстыку наведвальнасці беларускіх музеяў за 2012 год. За год 162 музеі краіны наведалі 5,7 мільёна чалавек.

Для параўнання, у 2011 год было 5,3 мільёна наведвальнікаў у 160 музеях.

У выніку топ-7 самых папулярных музеяў выглядае наступным чынам:

1. Нясвіжскі палац — 431 тысяча наведнікаў
2. Брэсцкая крэпасць — 355,4 тысячы
3. Гомельскі палаца-паркавы комплекс — 309,2 тысячы
4. Мірскі замак — 275,5 тысяч
5. Музей ВАВ — 234,9 тысяч
6. Полацкі музей-запаведнік — 223,9 тысяч
7. Нацыянальны мастацкі музей — 215,8 тысяч.

Нясвіжскі палац выбраўся на першае месца пасля праведзенай рэканструкцыі. Пазалетась яго наведала 210 тысяч чалавек, а летась удвая больш.

А вось мемарыяльны комплекс у Хатыні ў топ-7 зноў не трапіў. Летась туды прыехалі 204,5 тысячы чалавек.

**Паводле: nn.by**

# ТОП-5 «ОРИГИНАЛЬНЫХ» ИНИЦИАТИВ ДЕПУТАТОВ, НАЛОГОВИКОВ И ГАИШНИКОВ

**Как белорусские депутаты собирались стерилизовать ловеласов и бомжей, налоговики хотели привлечь стукачей к борьбе с зарплатами в конвертах, а гаишники сделали проституток знаменитыми.**




### 1. ОТКРЫТЬ ПУБЛИЧНЫЕ ДОМА

Идея легализовать проституцию в Беларуси принадлежит главе Белтелерадиокомпании **Геннадию Давыдько**. В бытность депутатом Палаты представителей Давыдько активно ратовал за выход этой индустрии из подполья, ссылаясь на опыт демократических стран!

*— Там проституция легализована, и это отнюдь не подрывает устои общества. По этому поводу давно успокоились старушки, может быть, даже с проститутским прошлым: знаете, «мораль крепчает, когда ветшает плоть». А девушки, которые занимаются этим, находятся под охраной государства: их безопасность, их здоровье...* — аргументировал свою позицию в интервью «Белгазете» Геннадий Давыдько. — *Более того, в бюджет поступают средства, ведь это одна из существенных статей дохода государства, которое поступает не ханжески, но радикально.*

По мнению Давыдько, жесткие меры в отношении проституток антигуманны, поскольку большинство девушек происходят из неблагополучных семей.

*«В определенном смысле это люди с ограниченными возможностями, почти инвалиды. Государство должно защищать их».*

Открытие в Беларуси публичных домов и появление улиц красных фонарей позволит пополнить казну государства, заявлял экс-депутат.

*— Я убежден, что часть пенсионных расходов из бюджета, еще каких-то расходов можно было бы закрыть доходами от легализации проституции.*

### 2. СПАСТИ ЖИЗНЬ ПРОСТИТУТКЕ С ПОМОЩЬЮ ФЛИКЕРА

Но не только Геннадия Давыдько беспокоила судьба жриц любви. В 2007-м белорусские СМИ взорвала новость: в целях дорожной безопасности девушкам, оказывающим сексуальные услуги на трассах, будут вручаться светоотражающие элементы — фликеры.

Об инициативе управления ГАИ Минской области сообщал сайт «Завтра твоей страны».

*— Проститутки не заботятся о личной безопасности. Стоят на обочинах, переходят в неустановленных местах трассы с высокой интенсивностью движения. Многие из них находятся в состоянии алкогольного опьянения, не обозначены фликерами в темное время суток…* — заявил **начальник управления ГАИ.**

Представительницы сферы секс-услуг восприняли новость на ура. Как призналась корреспонденту «Белгазеты» одна из них, ничего страшного во фликеризации проституток нет.

*— Наоборот, будет даже удобнее нас замечать в темноте,* — обрадовалась девушка. — *Будем буферами освещать дороги. А может, они нам эскорт с подсвечниками сообразят, чтобы все безопасно было — и на дорогах, и в постели?*

Неизвестно, удалось ли ГАИ обеспечить всех жриц любви Минской области светоотражающими элементами. Умалчивает статистика и о том, сколько жизней девушек, зарабатывающих на трассах своим телом, удалось спасти с помощью фликеров.

Зато эта история сделала белорусских проституток знаменитыми. В народе разошелся анекдот:

«Вопрос армянскому радио: «Стоят на трассе три проститутки. Какая из них из Беларуси?» Армянское радио отвечает: «Та, которая с фликером!»

### 3. ОТПРАВЛЯТЬ ГОМОСЕКСУАЛИСТОВ ЗА РЕШЕТКУ

Интимная жизнь представителей секс-меньшинств не давала покоя другому народному избраннику – **Виктору Кучинскому**. В 2005-ом он выступил за уголовное преследование гомосексуалистов.

*— Моя позиция как депутата такова: всех этих «голубых» и прочих надо по полной программе валить,* — заявил парламентарий на сессии во время обсуждения декрета президента «О некоторых мерах по противодействию торговле людьми».

В ответ на предложение Кучинского внести поправки в Уголовный кодекс, предусматривающие ответственность за гомосексуализм, тогдашний министр внутренних дел Беларуси Владимир Наумов отметил, что правоохранительные органы «пока не сталкивались с фактами насильственных действий по отношению к мужчинам».

### 4. СТЕРИЛИЗОВАТЬ БОМЖЕЙ И АЛКОГОЛИКОВ И РАССТРЕЛИВАТЬ ИНОСТРАНЦЕВ ЗА ПОСТАВКУ НАРКОТИКОВ

В 2005-м году депутат **Сергей Костян** предложил принять закон о насильственной стерилизации граждан, ведущих асоциальных образ жизни. Таким образом парламентарий собирался бороться с дебилизацией белорусского общества.

Как заявил Костян, *«даже животные живут упорядоченной половой жизнью»*, а около 1 процента людей не придерживаются этих принципов, и от них *«плодятся нездоровые дети, в большинстве случаев — дебилы»*. По его мнению, из поколения в поколение количество таких асоциальных элементов возрастает — и происходит постепенная «*дебилизация общества»*.

С легкой руки депутата бомжи, алкоголики и ловеласы могли лишиться возможности иметь наследников. С размножением первых двух категорий белорусов следует бороться, потому что они *«наплодят детей и посадят их на плечи государства»*. К ловеласам Сергей Костян отнес закоренелых алиментщиков.

*— Сошелся человек с одной женщиной — не получилось. Сошелся со второй. Родился ребенок — и снова развод. Третьего раза допускать нельзя. Безответственного ловеласа нужно подвергнуть принудительной стерилизации.*

Со слов депутата, его предложение было воспринято остальными депутатами положительно. Возражений из зала не прозвучало.

Однако позже парламент отказался от идеи законодательно оформить стерилизацию асоциальных личностей, посчитав, что депутаты не вправе лишать людей возможности завести детей вне зависимости от их социального положения.

Запомнился депутат Кучинский и еще одной своей инициативой: публично расстреливать иностранцев, поставляющих наркотики в Беларусь, а белорусских граждан за это преступление — приговаривать к пожизненному заключению.

*«Надо изучить опыт мусульманских стран о пьянстве и о наркотиках. Привез наркотики — расстрел…»*, — предложил он коллегам.

Кровожадный план Кучинского не осуществился. Как заверил журналистов министр юстиции: в стране уже существует достаточно жесткая законодательная база, которая позволяет пресекать преступления, связанные с ввозом и распространением наркотиков в Беларуси.

### 5. СТУЧАТЬ НА НАЧАЛЬНИКА ЗА ЗАРПЛАТУ В КОНВЕРТЕ

Министерство по налогам и сборам давно озабочено проблемой зарплат в конвертах. В прошлом году налоговики направили в бизнес-союзы проект указа, который узаконил бы право работников доносить на нанимателей, грешащих выплатами серых зарплат.

Представители делового сообщества выступили категорически против стукачества, полагая, что это не решение проблемы.

*«Насилие порождает насилие,* — сказал в беседе с корреспондентом «Салідарнасці» председатель Республиканской конфедерации предпринимательства Виктор Маргелов. — *Если мы начнем стучать друг на друга, ничем хорошим это не кончится. Есть объективные причины, по которым малый бизнес закрывается и теряет свою кредитоспособность. Это слишком легкое решение — вынуждать людей доносить на нанимателей, а не устранять первопричины, по которым бизнесмены не платят налоги и выдают зарплату в конвертах».*

**Паводле: gazetaby.com**

# ШУКАЕМ ПРАЦУ

## ПЕРШЫЯ КРОКІ

**Што трэба ведаць і умець, як добра напісаць рэзюмэ, аформіць матывацыйны ліст і ўвогуле - дзе і як шукаць працу?**



***Калі Вы толькі скончылі адну з навучальных устаноў Беларусі, то асноўнае — вызначыць прыярытэты:***

- жадаеце Вы працаваць па атрыманай спецыяльнасці ці марыце паспрабаваць сябе ў іншай сферы;
- акрэсліць для сябе сумму заробку, на які Вы прэтэндуеце.

Гэта дапаможа больш мэтанакіравана шукаць сабе працу, а значыць, скласці добрае рэзюмэ і не распыляцца на непатрэбныя дробязі.

### СКЛАСЦІ ДОБРАЕ РЭЗЮМЭ (CV)

Для таго, каб скласці добрае рэзюме, трэба не пашкадаваць часу і пачытаць спецыяльную літаратуру. Тут варта пазначыць толькі асноўнае, рэзюмэ павінна мець лагічную структуру і быць не больш за дзве старонкі.

Варта скласці адно агульнае рэзюмэ, куды ўключыць усе вашыя заслугі і веды (якое перыядычна будзе папаўняцца новымі пунктамі), а потым выдаляць тое, што не актуальна пры пошуку працы або для заяўкі на ўдзел у якім-небудзь адукацыйным мерапрыемстве.

Рэзюмэ будзе выглядаць больш прывабным, калі вы ўставіце сваё фота і сканвертуеце ў фармат PDF.

### АФОМІЦЬ МАТЫВАЦЫЙНЫ ЛІСТ

Для ўладкавання ў сучасныя буйныя беларускія і міжнародныя кампаніі і арганізацыі звычайна неабходна да рэзюмэ далучыць матывацыйны ліст.

Асноўная яго задача - запэўніць наймальніка ў тым, чаму менавіта вы павінны заняць тую ці іншую пасаду. Добра складзены матывацыйны ліст значна павышае вашыя шансы атрымаць запрашэнне на сумоў'е ў кампаніях заходняга тыпу.

### АДНО З АСНОЎНЫХ ПЫТАННЯЎ: ДЗЕ І ЯК ШУКАЦЬ ПРАЦУ?

На сённяшні дзень існуе мноства варыянтаў пошуку працы. Адзін з самых распаўсюджаных варыянтаў — гэта пошук праз Інтэрнэт, на спецыялізаваных сайтах, дзе можна размясціць сваё рэзюмэ або накіраваць яго да працадаўцы, чыя абвестка вас зацікавіла.

Калі вы плануеце шукаць працу з дапамогай Інтэрнэту, то варта зазірнуць на наступныя сайты дзяржаўных устаноў:

- *Міністэрства працы і сацыяльнай абароны* (тут змяшчаецца інфармацыя пра вакансіі па ўсей тэрыторыі Беларусі);
- Мінскага *гарвыканкама* (толькі для Мінска).

Але сістэма пошуку на гэтых сайтах нязручная, праграма шукае толькі 100% супадзенне і не дае сумежныя спецыяльнасці.

Найбольш папулярнымі старонкамі ў Інтэрнэце па пошуку працы з'яўляюцца: **tut.by, praca.by, www.rabota.by, kariera.by.**

Другі варыянт — непасрэдна накіроўваеце Вашае рэзюмэ *да працадаўцы на канкрэтную вакансію*. Напрыклад, калі Вы ўсё свядомае жыццё марылі працаваць у нейкай канкрэтнай кампаніі, то накіроўвайце туды сваё рэзюмэ, каб Вас дадалі ў базу дадзеных гэтай кампаніі і, магчыма, калі ў іх адкрыецца вакансія Вам патэлефануюць і запросяць на сумоў'е.

Трэці варыянт — *прафесійныя сацыяльныя сеткі* **kollega.by, linkedin.com**, дзе ёсць магчымасць размясціць падрабязную інфармацыю пра сябе. Звычайна HR-ры дужых кампаній карыстаюцца імі для мэтанакіраванага пошуку кандыдатаў.

Чацвёрты варыянт — звычайныя *сацыяльныя сеткі*. Тут вы можаце знайсці старонкі кампаній, у якіх хацелі б працаваць і выйсці на іх HR-аў.

Пяты варыянт — *прафесійныя сайты, форумы*. Тут таксама могуць быць змешчаны цікавыя вакансіі і інфармацыя аб працы.

Шосты варыянт — *кадравыя агенцтвы*. Тут магчыма выбраць некалькі агенцтваў і накіраваць сваё рэзюмэ з суправаджальным лістом. Калі агенцтва вамі зацікавіцца, то з вамі звяжуцца і прапануюць канкрэтныя варыянты.

Варта зазначыць, што кадравыя агенцтвы не бяруць грошы са сваіх кліентаў, за іх паслугі плацяць наймальнікі. Таму важна не звязвацца з агенцтвамі, што патрабуюць аплату ад асобаў, што шукаюць працу.

Сёмы варыянт — *распаўсюджванне інфармацыі сярод сваіх сяброў, знаёмых* і г.д. Магчыма, хтосьці менавіта ў гэты момант шукае менавіта такога супрацоўніка як Вы, і Ваш сябар можа стаць галоўным сувязным звяном.

### СУМОЎ'Е

Сумоў'е — гэта калі Вы знаёміцеся з кампаніяй, а яна з Вамі, і кожны робіць выбар. Таму, калі Вы сапраўды жадаеце атрымаць працу ў канкрэтнай кампаніі, неабходна загадзя падрыхтавацца: даведацца больш пра арганізацыю, пра асноўныя напрамкі яе дзейнасці, спецыфіку вытворчасці — усё гэта дапаможа больш яскрава праявіць сябе на сумоў'і і атрымаць пажаданую пасаду.

Памятайце: не існуе дрэнных кандыдатаў і дрэнных кампаній. Ёсць кандыдаты і кампаніі, якія пасуюць адно аднаму, а ёсць - што не. Калі на сумоў'і Вам некамфортна і Вы адчуваеце, што не зможаце працаваць у такой атмасферы, лепей адразу адмовіцца ад прапановы працы, чым потым шкадаваць.

### УЛАДКАВАННЕ НА ПРАЦУ: ЗАКЛЮЧЭННЕ КАНТРАКТУ, ПРАЦОЎНАЯ КНІЖКА

Калі Вы прайшлі усе гэтыя крокі і Вас узялі на працу, абавязкова прасачыце, каб з вамі заключылі працоўную дамову і ўнеслі запіс у працоўную кніжку.

**Паводле: adukacyja.info**

## УВАГА! КОНКУРС!

## ОБМЕНЯЙ ВЕЛО-ФОТО НА ЦЕННЫЙ ПРИЗ!

**В рамках кампании «За вело-Брест!» проходит фотоконкурс, результатом которого будет настенный календарь на 2013-2014гг. с тематическими фотографиями на каждый месяц.**

Работа над созданием единственного в своём роде брестского вело-календаря не остановилась, несмотря на суровую зиму и не очень весенний март.

Сейчас же – самое время пересаживаться с общественного транспорта на свой личный двухколёсный и, конечно, фотографироваться для новой страницы календаря.

Автор фотографии, отобранной для календаря по результатам голосования на сайте, получает ПРИЗ: флеш-накопитель 16 Гб. Всего в календаре будет размещено 12 фотографий).

Авторы всех фотографий, присланных на конкурс, получат в подарок календарь и фирменную продукцию кампании «За вело-Брест!»: значки, флажки, наклейки и т.д. (Всего будет награждено 60 конкурсантов).

На конкурс принимаются фотографии велосипедиста (велосипедистов) на фоне узнаваемых мест города Бреста (известные улицы, парки, здания и т.д.). Фото должно соответствовать указанному месяцу.

Конкурсная работа должна состоять из фотографии и описания места, где был сделан снимок (приветствуется небольшой рассказ об истории фотографии).

Фотография должна быть сделана в период с 01.05.2013 по 31.04.2013.

Фотографии должны быть высокого качества не менее (хотя бы по одной стороне) следующих размеров: ширина 1600 px, высота 1200 px.

Работа должна быть авторской.

Сроки проведения конкурса «ВЕЛО-МАЙ»: с 01.05.2013 по 31.05.2013.

Работы принимаются до 23.59 31.05.2013 года на адрес: vybor@tut.by с отметкой «на фотоконкурс». В письме необходимо указать фамилию, имя конкурсанта, контакты: телефон, мейл.

Сроки проведения конкурса по созданию вело-календаря: с 01.07.2012 по 30.06.2013.

**dzedzich.org**



# AKUTE У БЕРАСЦІ

**Бываюць моманты ў жыцці, якія так проста не забудзеш. Мабыць нахвальваць і так добры гурт лішнім разам і не трэба, але ж у гэтым выпадку ўстрымацца амаль немагчыма – канцэрт аказаўся сапраўды шыкоўным.**



Ужо здалёк, толькі падыходзячы да былога кінатэатру “1 мая”, я заўважыла пярэсты натоўп моладзі. Цёплае сонца, натхнёныя размовы аб хуткім канцэрце, чаканне – і, нарэшце, зала, некалькі хвілін, і вось..

Толькі мой канцэрт распачаўся яшчэ раней, калі хлопцы Стас, Рома ды Павел, наладзілі афтографсесію ў музычнай краме Green Star. І аказаліся, што зоркі ж зусім не пафасныя і блізкія – прышпільна было паціснуць рукі тым, музыка каго грае ў тваім плэеры.

Распачаў канцэрт гурт Фіялет, які прыехаў да нас з Украіны. Хлопцы даволі энэргічна і палымяна, як яны выказаліся “парокенрольнічалі”. А сярод песен на украінскай мове, знайшлося месца і адной на нашай роднай мове.

Скончылі свой выступ музыкі абяцаннем прыехаць у наш горад яшчэ раз, але ужо з вялікім сольным канцэртам.

І нарэшце – доўгачаканыя постаці на сцэне. Зала крычыць A-KU-TE! A-KU-TE! Музыкі настройваюцца – першы аккорд – і з гэтай секунды да канца канцэрту на адным удыху, без перапынку, каб удыхнуць яшчэ раз.

Стаіш пад самай сцэнай і адчуваеш, як падабаецца музыкам граць, і як падабаецца натоўпу шалёна скакаць ды крычаць такія знаёмыя словы. Музыка крыху сціхае, вакаліст зачыняе вочы, ён пяе натхнёна, пяе тое, што адчувае, што думае. Потым зноў драйв, і Стас просіць пець залу – і зала пяе, і потым зноў музыка, і зноў, і зноў…

Нешта ёсць дзіўнае у тым, каб слухаць, пець пабеларуску, слухаць так проста нашу мову са сцэны. Пачынаеш і думаць па-беларуску, бо інакш проста немагчыма.

Але канцэрт скончаны, натоўп выходзіць з залы, паўсюль усмешкі, размовы – уражанні, жаданні і ўсе думкі, што назбіраліся пад час канцэрту нарэшце могуць быць выказаныя.

*****

Цікавае інтэр'вью з музыкамі апублікаваў берасцейскі партал **virtual.brest.by:**

***- Ребята, ваша группа существует с 2008 года и за это время она стала популярна не только в нашей стране, но и за её пределами. Вы рассчитывали на такой успех, когда создавали группу?***

Стас: Конечно рассчитывали. Мне кажется, что любой, кто начинает играть, рассчитывает на успех.

Рома: На самом деле мы рассчитывали на стадионы, на миллионы долларов и лимузины.

***- А вообще когда вы начали заниматься музыкой?***

Рома: Я с детства. Было время, что даже в оркестре играл, правда, 2 раза всего.

Стас: Я тоже с детства. Меня в музыкальную школу отдали с 7 лет.

Паша: Я лет с 16, наверное, музыкой стал заниматься.

***- Стас, а вот в музыкальную школу тебя заставляли ходить или всё по собственному желанию?***

Стас. Я считаю, что меня нужно было заставлять до определённого возраста, пока я сам не понял, что это моё. Было конечно, что я бросал потом опять занимался.

Рома: А меня не заставлял никто. Я сам всё.

Паша: Просто когда ходишь в музыкальную школу, нет такого осознания, что там что-то надо. Учить ноты эти, например. Всё приходит уже позже.

***- Вот в наше время большинство молодых групп пишут песни на английском языке, дабы круг их слушателей стал больше. Почему вы остановились на белорусском языке, ведь это значительно ограничивает аудиторию слушателей?***

Стас: Я не думаю, что язык ограничивает аудиторию.

Рома: У нас никогда не было с белорусским языком никаких проблем. Ни на Западе, ни на Востоке, ни на Севере, ни на Юге. Даже дело не в том, что кто-то понимает или не понимает его. Мы выступали в разных странах, ясно, что в Литве его вообще никто не понимает, но они стоят, открывают рот, пытаются петь что-то под «Адзіноцтва», и всё всегда хорошо.

Стас: Это просто глупые стереотипы по поводу белорусского языка.

***- Ваши песни в основном носят лирических характер. Тексты для них – это ваши фантазии или же жизненный опыт?***

Рома: Очень не лирические тексты у нас. Они очень тёмные, страшные, и после того как они формируются окончательно, становится даже как-то жутковато, думаешь: как же такое вообще могло вылиться на бумагу.

***- Рома, а чем руководствуешься при написании текстов?***

Стас: Методичкой. (смеются)

Рома: Тут никогда не знаешь, когда придёт это самое вдохновение, и оно может застать в такой не подходящий момент, когда вот приходится хватать диктофон и что-то диктовать туда. Вот например вчера, или позавчера, просто родилось два прекрасных текста, которых пол года не получалось написать, а вот как-то так за 10 минут просто сел это всё и написал.

***- А помимо музыки чем занимаетесь? Читать любите? Может, есть любимые белорусские писатели?***

Рома: Я кино люблю смотреть. Вот Крёстный отец недавно посмотрел.

Стас: Недавно прочитал Е. Гришковец – Дредноуты, очень интересно. Из белорусских писателей - Шамякин Иван.

Паша: У меня любимый Владимир Караткевич.

***- Вы вот недавно снялись в рекламе кофе «Nescafe». Хотели бы ещё сняться в рекламе или может в кино?***

Рома: Теперь у нас годовой запас кофе. (смеются)

Стас: Подвалили.

Паша: Грузовиком.

Рома: А вообще кино хотим.

Паша: Следующая планка будет кино.

***- Вы работали над саундтреками к фильму «Вышэй за неба». Понравилось работать?***

Стас: Да, очень интересно было.

Рома: Очень профессиональная работа. Когда мы записывались, мы ощущали ответственность за всё это поколение, на которое мы можем повлиять с помощью своего творчества. Помочь им получить начальные задатки эстетического вкуса. Своим примером показать, как можно любить Родину. Как можно делать это всё по-белорусски. (смеются)

***- В ближайшее время вы будете выступать на таких фестивалях, как «Мост» и «Басовішча 2013». Что ожидаете от этих концертов?***

Рома: Посмотрим, посмотрим. Очень классная задумка этого «Моста», например. Пригласить серьёзных хедлайнеров из-за бугра и местные группы. Здорово!

Паша. Драйва можно ожидать. Хорошего концерта.

***- А как вы думаете, на такие фестивали нужно приглашать уже известные коллективы или же давать возможность молодым командам реализовать себя?***

Рома. Это вопрос к организаторам, я думаю. Если они поверят в эту молодую группу, увидит в них какой-нибудь потенциал, конечно они их позовут. Почему нет?! Двери для всех открыты. Музыка она ведь в воздухе, мы все ей дышим.

***- А какие ваши творческие планы на ближайшее время?***

Стас: Концерты! Альбомы!

Рома: Альбом думаем на следующей неделе, в пятницу, правда не знаем в какую именно.(смеются)

**Паводле: dzedzich.org, virtual.brest.by**

# ЧАМУ Б НЕ НАБЫЦЬ САБЕ РОВАР?

**Generation.by сабраў некалькі тыповых стэрэатыпаў, якія не дазволяць табе заўтра проста пайсці ў краму і набыць там ровар.**

**1. У ВЫБАРЫ РОВАРА ЛЁГКА ЗАБЛЫТАЦЦА**

Выбар ровару — справа няпростая. Новы набыць ці былы ва ўжыванні? Дарагі ці патанней? З якой рамай і ўласцівасцямі? Нармальны ровар каштуе дорага, але яго могуць скрасці. А на танным можна далёка не з'ехаць ці ўвогуле забіцца. Разабрацца ж у тым, якое адрозненне паміж звычайным горным і, напрыклад, гарадскім роварам — увогуле справа не адной гадзіны.

А гэта асновы выбару. З улікам існавання тысяч найменняў і відаў, вочы пачынаюць разбягацца, як толькі заходзіш на чарговы роварны электронны ці проста супер-гіпер-маркет. Зрэшты, у справу выбару ровара заўжды можна далучыць знаёмца-знаўца пытання. І заадно адкатаць з ім ці ёй свае першыя роварныя кіламетры.

**2. БАРДЗЮРЫ ВЫСОКІЯ, А ВЕЛАДАРОЖАК МАЛА**

Адна з найбольш распаўсюджаных праблем, з якімі сутыкаюцца пачаткоўцы-раварысты і раварысткі (ці тыя, хто толькі марыць стаць такімі) — адсутнасць неабходнай інфраструктуры ў горадзе. Сапраўды, рухацца па тратуарах цяжка, заехаць на некаторыя з іх немагчыма, а нават калі гэта атрымліваецца, праз некалькі кіламетраў гэткага Парыж-Дакару, што часта ўяўляе сабой перасоўванне па маляўнічых вуліцах-праспектах сталіцы, хочацца кінуць ровар і бегчы падалей ад яго.

Аднак не ўсё так дрэнна. Прынамсі, у тым жа Менску. Напрыканцы мінулага году сталічны велярух узначаліў сам мэр Ладуцька. І адразу галоўны горад краіны высунуў прэтэнзіі на роварны цэнтр калі не ўсёй Еўропы, то самай усходняй яе часткі. Улады кажуць, што ўжо сёлета пабудуюць у Менску амаль чатыры дзясяткі кіламетраў роварных дарожак.

Але можна выбірацца за горад, дзе пра бардзюры не чулі, затое ё свежае паветра, птушкі і краявіды, якіх не хапала ў тваім інстаграме.

**3. НЯМА ДУШУ НА ПРАЦЫ/ВА ЎНІВЕРЫ**

«Вось бы яшчэ ў кожны офіс душык ды месца для ровару», — мараць многія з тых, хто б хацеў ездзіць на ровары на працу і назад. Сапраўды, пасля 20 км. кручэння педаляў не кожны будзе выглядаць прываблівым да такой ступені, каб працягваць працу ва ўмовах скучаных офісных памяшканняў.

Знаўцы пытання кажуць, што і без душу можна абысціся. У горшым выпадку вымыцца і пераапрануцца можна і ў прыбіральні. Калі ж раварыстаўпрацаўнікоў стане шмат, у кампаніяў узнікне стымул будаваць памяшканні адразу з убудаванымі душамі. Тыя ж, каму ад хаты да працы 10 хвілін ці некалькі кіламетраў, душ увогуле непатрэбны.

**4. НЕ ЎМЕЮ ЕЗДЗІЦЬ НА РОВАРЫ**

Камусьці ў дзяцінстве так і не давялося пакатацца на ровары, і з тых часоў недзе ў падсвядомасці завіс страх: Я НЕ ЎМЕЮ. І дзе цяпер навучыцца? Вунь, для лыжнікаў пачынаючых, гэтаксама як і для плыўчых, ёсць інструктары. Нават фатаграфаваць могуць навучыць адмыслоўцы. Але пра курсы для раварыстаў не чуваць.

Запыт у Google, «што рабіць, калі я не ўмею ездзіць на веласіпедзе», выдае вельмі просты адказ: «проста сядаеш, трымаеш роўна і круціш педалі».

**5. НАБУДУ, А НАЗАЎТРА ЯГО СКРАДУЦЬ**

Сур'ёзная праблема, ад якой пакутуюць няшчасныя па ўсім свеце. І, што цікава, чым багацейшая мясцовасць, тым актуальнейшае пытанне крадзяжоў. У многіх краінах Захаду, дзе роварная культура — частка жыцця, мясцовыя змагаюцца з гэтай праблемай альбо моцнымі замкамі-цэпамі, якія толькі трохі саступаюць кошту самога двухколага агрэгату, альбо проста набываюць такія ровары, якія не тое каб не скрадзеш, а і далёка не з'едзеш.

Адмыслоўцы раяць пакідаць на такія выпадкі ровар у публічных месцах, дзе побач цягаецца міліцыя, альбо стаяць камеры назірання. Такіх нямала ля, напрыклад, банкаматаў. І на замок не варта забывацца.

**6. НЯМА ДЗЕ ПАКІНУЦЬ**

Ты чалавек тысячы справаў. Трэба і на навучанне, і на працу, і ў краму заехаць. А пасля яшчэ па кавярнях, барах, клубах прабегчыся. І ўсё гэта з роварам. Куды яго падзець, такога вялікага і часам нават бруднага? У Менску адказ нечакана прапануюць менскія ўлады. У гэтым годзе толькі тры ягоныя раёны абяцаюць пабудаваць 227 роварных паркоўкі.

Хаця праблему прыватнага размяшчэння ровару гэта не вырашае. Многім самім няма дзе жыць, а тут яшчэ ровар жылплошчу просіць. У студэнтаў гэткая ж праблема: часта ровар у інтэрнаце пакінуць немагчыма. Калісьці светлая будучыня з гіганцкімі трохузроўневымі роварнымі паркоўкамі, як у цэнтры галандскіх гарадоў, яшчэ прыйдзе і да беларусаў. І пытанне мястэчак для ровараў адпадзе само.

**ЯШЧЭ НАГОДЫ НЕ НАБЫВАЦЬ РОВАР**

Язда на ровары ў 20 разоў менш небяспечная, чым язда на любым іншым транспарце;

У раварыста верагоднасць патрапіць пад дождж складае не больш за 3%;

У гарадскіх і часта ў загарадных умовах ехаць на ровары атрымліваецца ў 2 разы хутчэй, чым на аўтамабілі;

На паркоўцы для аднаго аўтамабіля можна прыпаркаваць 10 ровараў.

**Паводле generation.by**

# ЯК ПРАВЕСЦІ ЛЕТА 2013?




**Некалькі цікавых прапаноў ад сайта adukacyja.info**

## ЛЕТНІ ЎНІВЕРСІТЭТ У ВУГОРШЧЫНЕ

**Для студэнтаў, навукоўцаў, грамадскіх актывістаў. Кёсег, Вугоршчына, 23 чэрвеня – 06 ліпеня 2013. фінансавыя ўмовы: складка на ўдзел 500 еўра. Сайт: www.ises.hu.**

Тэма Летняга універсітэту 2013 – "Сувэрэннасць і грамадзянства ў Еўропе і за яе межамі". Падчас мерапрыемства будуць абмяркоўвацца розныя, але ўзаемазвязаныя паміж сабой пытанні, якія тычацца Еўрапейскага крызісу і шляхам выхаду з яго, а таксама жыццяздольнасці еўрапейскага грамадзянства.

Летні універсітэт адкрыецца выступамі цэнтральнаеўрапейскіх дыпламатаў і палітыкаў, і прадоўжыцца дыскусіяй за круглым сталом, на які будуць запрошаныя ўсе удзельнікі. На працягу двух тыдняў праграмы грамадскія дзеячы, пісьменнікі, мастакі і журналісты будуць распавядаць пра свой жыццёвы досвед студэнтам і іншым ўдзельнікам.

Каб прыняць удзел у летнім універсітэце, дашліце запоўненую анкету, матыватыйны ліст і вашае CV на электронную скрыню international.relations@ises.hu.

## ЛЕТНІК У СЕРБІІ

**Для беларускай моладзі, зацікаўленай адраджэннем вёскі. Сербія, 13 – 27 ліпеня 2013. Фінансавыя ўмовы: унёсак 50 еўра і выдаткі на дарогу.**

Патрабаванні да удзельнікаў: зацікаўленасць у адраджэнні вёскі, жаданне працаваць у сельскай мясцовасці. Краіны-ўдзельніцы: Азербайджан, Беларусь, Чэхія, Македонія, Марокка, Румынія, Палестына, Славакія, Харватыя, Гана, Сьера Ліонэ, Непал.

Апісанне працы:

Наведванне хатніх гаспадарак, якія вырабляюць арганічныя прадукты харчавання;

Горныя прагулкі і паходы;

Кожны ўдзельнік правядзе адзін дзень у вёсцы, дапамагаючы гаспадарам, і, такім чынам, зможа пабачыць, як тыя жывуць;

Ачыстка асяроддзя рэчышча ракі Цемсліца, якая праходзіць праз вёску;

Начоўка каля Завойскага возера;

Фестываль традыцыйнай балканскай кухні.

Фінансавыя ўмовы: 50 еўра (частковая аплата харчавання ў летніку) + выдаткі за падарожжа.

«Офіс прасоўвання ініцыятыў» садзейнічае ў пытаннях, звязаных з візай і дарогай.

Апошні тэрмін падачы заявак: 25 траўня 2013 года.

Для ўдзелу неабходна даслаць краткае рэзюмэ, канкрэтную матывацыю і эсэ "Як я бачу адраджэнне сельскай мясцовасці" на электронны адрас: ngo.oip@gmail.com з пазнакай "Сербія".

Па ўсіх пытаннях звяртацца ngo.oip@gmail.com ці тэл. +37529 6427553 (Каардынатар – Дарэя Гога).

**adukacyja.info**

# БЕЛАРУСКІЯ СТУДЭНТКІ Ў В'ЕТНАМЕ

**Беларускія студэнткі ў В'етнаме — яшчэ большая экзотыка, чым сама краіна для беларусаў. Як жывецца нашым дзяўчатам у Сацыялістычнай Рэспубліцы, дзе роля кампартыі афіцыйна замацаваная ў Канстытуцыі. Алена, Вераніка і Наста распавялі Generation.by пра тое, што «сабакі — гэта не танная ежа», як не выйсці замуж за в'етнамца і экстрым тамтэйшых вуліц.**




### САБАКІ – НЕ ТАННАЯ І НЕ ШТОДЗЁННАЯ ЕЖА

Распавядае Вераніка, 24 гады. Вучылася ў 2009/2010, жыве там і цяпер, выкладае англійскую. Горад Ханой.

Першы раз патрапіла ў Ханой, калі мне было 21. На той час вучылася на 3-м курсе Лінгвістычнага Мінскага. У адзін дзень у сакавіку сяброўка зусім выпадкова распавяла пра стажыроўку ў В'етнаме, на якую яна збіраецца падаць дакументы. Тут я «загарэлася», і мы пачалі разам распрацоўваць план уцёкаў ды спіс неабходных дакументаў.

Заняткі в'етнамскай 5 дзён па 3 гадзіны ва ўніверсітэце. Наша група складаецца з манголаў, рускіх, парачкі вугорцаў, калісьці ірландзец адзін быў. Жылі ў інтэрнаце для замежнікаў, пакой на 3 чалавекі з суседкай з Вугоршчыны, гаўбцом, пальмай за ім ды пакаёўкай штодня.

На стыпендыю (100 даляраў) пражыць было можна, але ўсё ж гэта мінімум. А хацелася ж яшчэ і павандраваць па краіне. Так што знайшла працу інгліш тычарам у мясцовай школе, як агулам і ўсе знаходзяць падобную працу. Ехаць да школы трэба было далёка, на той час на скутэр мне страшна было сесці, так што ехала на аўтобусе, дзе ўсе глядзелі на мяне як на снежнага чалавека з Гімалаяў. **Аўтобусы, дарэчы, вельмі пацешнае месца,** калі назіраць і параўноўваць з аўтобусам у Мінску. Аўтобус не чакае усіх па паўгадзіны: спыняецца, 5 сек прайшло, усе ўскочылі — паехалі! Улазіць значна больш людзей, кандуктар часам сам размяркоўвае пасажыраў (куды каму стаць ці сесці), здараецца так, што незнаёмыя людзі дзеляць 1 месца паміж сабой (2 дзяўчыны, 2 хлопца, пажылая жанчына і маладая, але ніколі 2 асобы рознага полу).

Другі від транспарту гэта мота-таксі (хе om), што перакладаецца як **«транспарт абдымкі»** :D Напэўна таму што, калі едзеш на такім транспарце, сядзіш ззаду ды абдымаеш троху кіроўцу. Кіроўцы — старыя мужыкі, якія хочуць зарабіць крыху грошай. Усё ж танней, чым таксі, але прыйдзецца гандлявацца спачатку, а потым абдымаць дзядзьку ці яшчэ падтрымліваць гутарку.

У Ханоі вельмі сумавала па адсутнасці прасторы. Не тое што ў нас, выйшаў на праспект з сяброўкамі ды гуляй сабе, размаўляй і нават пасядзі на лавачцы. Тут пешаходам туга. Вуліцы разлічаная на крамы, кавярні з мясцовай ежай ды дарогі. Ходнікі для таго, каб паркаваць байк. Пешаход вымушаны лавіраваць пасярод гэтага. А перасякаць вуліцу — гэта асабліва цікава. Святлафоры ёсць, але мала дзе. Ды нават там, дзе яны ёсць, прыярытэт аддаецца транспарту. Таму даводзіцца перасякаць дарогу, павольна вірлуючы ў плыні, і не чакаць, што хтосьці спыніцца.

Сярод напояў самае папулярнае — піва, «Біа» па-іхняму. «Хай біа!» — крычым мы, сеўшы за стол. Гэта не значыць "прывітанне піва", а «два піва». Ёсць папулярныя ды велізарныя піўныя рэстарацыі па ўсім горадзе, дзе кожны абед і вечар ужываецца яго шмат пад розныя стравы. На пачатку я падазравала, што нават кіроўцы аўтобусаў п'юць трохі піва за абедам, а потым водзяць па горадзе, як ашалелыя. Яшчэ ёсць гарэлка «Ханой», якая чамусьці не дацягвае да 40 градусаў (толькі 39,5).

**В'етнамцы ядуць сабак, так.** Таксама змей, чарапах, жаб, вугроў. Сабакі — не танная і не штодзённая ежа. Гэта таксама ўспрымаецца як нешта асаблівае. Каштавала. Больш не буду. Хацелася ванітаваць ды добра запіць усё гарэлкай.

Яшчэ в'етнамцы **вельмі рамантычныя**, асабліва ў перыяд да замужжа. Яны любяць розныя песні пра каханне, вельмі любяць бавіць час у розных кавярнях, выпіваюць мясцовую каву сінь то (фрэш па-нашаму), фатаграфуючыся на прыродзе ў рамантычных сукенках ды касцюмах. Пасля вяселля выглядае ўсё прыблізна так: дзеці з'яўляюцца ў першы ж год, жанчыны ходзяць у піжамах па вуліцы, кормяць дзяцей з лыжачкі, а мужы наведваюць піўныя рэстарацыі.

### НА ТРЭЦІ ДЗЕНЬ МЯНЕ ЗБІЎ НЕЙКІ В'ЕТНАМЕЦ

Распавядае Анастасія, 22 гады. Вучылася ў 2011/2012, горад Ханой.

У В'етнам патрапіла па стажыроўцы. Патэлефанавалі з дэканата, прапанавалі абраць з групы трох чалавек — кандыдатаў на паездку ў В'етнам, а ў нас агулам толькі тры выклікалася. Па прыездзе здала іспыты экстэрнам, таму адлічвацца на год не давялося.

Трафік там вар'яцкі. На трэці дзень мяне збіў нейкі в'етнамец. Абышлася разбітымі каленкамі. І гэта пры тым, што я на зялёнае святло пераходзіла. Скутэры па дарогах пруць такой плынню, што пераходзіць страшна. Потым навучылася.

Колькасць в'етнамцаў, якія валодаюць англійскай, на інфармацыйных сайтах дакладна перабольшаная. На ёй у асноўным моладзь размаўляе і прасунутыя жыхары, якія жывуць у цэнтры горада.

Не раз хапалі за рукі, за валасы скублі, **сфатаграфавацца прасілі.** У іх свой «бзік» да белай скуры: яна лічыцца самай прыгожай і арыстакратычнай.

Ежа недарагая. Усё можна купіць на вуліцы, а яшчэ і паназіраць за працэсам гатавання. Аднак кажу адразу: гэта **не для грэблівых**. Бачыла працэс мыцця посуду наўпрост на дарозе ў тазіках. Але гатуюць смачна. Ёсць таксама месцы амаль еўрапейскага ўзроўню, але пераважна ў цэнтры.

Неяк у пачатку стажыроўкі не магла растлумачыць мясцоваму ахоўніку, што ракавіна ў ваннай адвалілася. Ён па-англійску не разумеў. Палезла ў Гугл, пераклала, запісала, паказала яму свае каракулі. Не зразумеў. Пайшла за слоўнікам. Пачала ў яго на вачах шукаць патрэбнае слова і тыкаць па чарзе ў словы «ракавіна», «ламаць», «рамантаваць». А ён рагоча. Ну я тады па-англійску кажу, што ў мяне праблема і трэба ў пакой падняцца. Прычым тлумачыла так настойліва, што падаецца, ён мяне няправільна зразумеў: пачаў свой заручальны пярсцёнак паказваць, кшталту, жанаты. Давялося клікаць перакладчыка.

### ВАЖНА, КАБ ДЗЕЦІ ВУЧЫЛІ АНГЛІЙСКУЮ З БЕЛЫМ ЧАЛАВЕКАМ.

Распавядае Алена, 24 гады. Вучылася ў 2009/2010 і 2011/2012, горад Ханой.

Ёсць міжнароднае пагадненне паміж Беларуссю і В'етнамам, што яны дасылаюць 10 студэнтаў у Беларусь і наадварот. В'етнамцаў шмат прыязджала, а беларусы неяк не хочуць ехаць.

Перасоўваліся на скутэрах, арэндавалі іх. На іх, па ідэі, патрэбныя правы, але ў замежнікаў не правяраюць. Нават, калі спыняць, **заўсёды можна зрабіць выгляд, што ты не разумееш**, і цябе адпусцяць.

Падпрацоўвала настаўніцай англійскай мовы. Для в'етнамцаў важна, каб іх дзеці вучылі англійскую з носьбітам мовы, нават не столькі з носьбітам, колькі з белым чалавекам. Нават дакументы ў нас не прасілі. Зарабіць можна недзе 15-18 долараў за гадзіну.

В'етнамцы вельмі **ветлівыя, асабліва да замежнікаў**. Яны спытаюць усё: хто я, што рабіла, дзе мой хлопец і распавядуць пра ўсю сваю дзейнасць, нават, калі ты проста набываеш макароны.

За 1 долар можна паесці нармальна на вуліцы і яшчэ і піва папіць. Часта ў рэстарацыях усе сурвэткі і смецце кідаецца на падлогу, потым гэта ўсё прыбіраецца. Палачкі ў іх драўляныя, але шматразовыя, яны іх мыюць, і тыя аблазяць. Аднак можна папрасіць і аднаразовыя. Калі я збіралася ў В'етнам, узяла з сабой металічныя. А мама мяне спытала: «Навошта табе палачкі ў В'етнаме?» Ну вось, спатрэбіліся.

В'етнамскія **жанчыны вельмі прыгожыя, а мужчыны ўсе страшныя**. У нас была выкладчыца в'етнамскай. Калі яна ўпершыню зайшла, усе падумалі, што яна студэнтка. А ёй 35 гадоў і ў яе двое дзяцей. У в'етнамскіх мужчын часта чорныя зубы і яны любяць даўгія пазногці, на мязінцах, напрыклад. Раней лічылася, што калі ў мужчыны даўгія пазногці — значыць ён не працуе на зямлі, ён вышэй статусам. І ў в'етнамскіх мужчын першых тры пытанні: «Як цябе завуць?», «Ты адкуль?» і «Хочаш за в'етнамца выйсці замуж?»

Калі прыехала назад у Беларусь, мне патэлефанавалі і прапанавалі падпрацаваць перакладчыцай в'етнамскай. І ўлічваючы, што мяне запрасілі як самага кваліфікаванага спецыяліста, значыць з в'етнамскай тут усё вельмі дрэнна. Яе нідзе не выкладаюць, адзіная магчымасць — гэта самі в'етнамцы, але яны вельмі кепска размаўляюць па-руску.

**Паводле generation.by**

# БЕЛАРУСКІЯ ПРОЗВІШЧЫ

**Той, каму давялося расці на вёсцы, памятае: вясковыя роды называлі па мянушках. Калі ў вёсцы дванаццаць сем'яў Герасімчыкаў, мянушкі — найпрацейшы сродак указаць на патрэбнага чалавека. Яны даваліся найчасцей ад імені дзеда або прадзеда. Адны Герасімчыкі маглі быць Казімірчыкамі, другія — Апанасавымі, а трэція — Адамавымі...**




**З такіх родавых мянушак 500 гадоў таму фармаваліся прозвішчы. Як? Гэтым займаліся бюракраты.**

### ШЛЯХТА ПРАГНУЛА ПРОЗВІШЧАЎ

Першымі ў канцы XV ст. прозвішчы займелі баярышляхта, піша гродзенскі гісторык Андрэй Вашкевіч. Спачатку яны не былі сталымі. Сыны баярына Грынькі рабіліся Грынковічамі, але дзеці ягонага сына Багдана ўжо былі Багданавымі Грынковічамі. Яшчэ праз пакаленне пра Грыньку маглі і забыцца, ператварыўшыся ў Багдановічаў...

Але Багдановічам цяжка было пацвердзіць свае правы на сяло, якое вялікі князь даў іх дзядам-Грынковічам. Таму чым больш дзяржаўная канцылярыя стварала папер-прывілеяў, тым важней для шляхціца было зафіксаваць сваё прозвішча раз і назаўжды.

### СІНОНІМ ЗАЛЕЖНАСЦІ

Сяляне ж яшчэ ў пачатку XVI ст. прозвішчаў не мелі. Каму справа да селяніна, які жыў на хутары, мог вольна перамяшчацца па краі і быў эканамічна незалежным? Прозвішчы сялянам пачалі даваць кантрольныя органы ВКЛ. Адбывалася гэта ў сярэдзіне XVI ст., падчас Валочнай памеры 1557 г. — гіганцкай аграрнай рэформы. Сялян «прымацоўвалі» да зямлі, высялялі ў вялікія вёскі і перапісвалі, дадаючы да імені імя па бацьку або мянушку, якія цяпер раз і назаўжды рабіліся прозвішчамі.

### ЛУК'ЯНОВІЧЫ І БАБРОВІЧЫ

Тыя з іх, што паходзяць ад імя продка, называюць патранімічнымі. Большасць іх у беларусаў маюць суфікс -іч. Вось колькі іх у адным Попісе Гродзенскай каралеўскай эканоміі XVI ст.: Лук'яновіч, Івановіч, Ляўковіч, Амельяновіч, Хоміч, Навумовіч, Жуковіч, Васілевіч, Паласковіч, Міцкевіч, Козіч, Ячкевіч, Дашкевіч, Грынкевіч, Ламановіч, Зімаковіч, Бабровіч...

«Прозвішчы на -іч — адзнака славянскага паходжання, — кажа доктар філалагічных навук Валянціна Лемцюгова. — Яны характэрныя не толькі для беларусаў, але і для заходніх і паўднёвых славян. У беларусаў суфікс -іч не меў саслоўных абмежаванняў, а ў Расіі прозвішчы на -іч атрымлівалі толькі прадстаўнікі вышэйшых колаў грамадства з царскага дазволу».

Таксама да групы патранімічных прозвішчаў, найбольшай і найстаражытнейшай, адносяцца тыя, што сканчаюцца на -ук (-юк), -эня (-еня), -энка (глядзі мапу).

### ЮРКОЙЦІ І ДАЎГЯЛЫ

У беларускіх прозвішчах адбілася тысячагадовае суіснаванне славянаў з балтамі: часта славянскі корань спалучаўся з балцкім суфіксам — як у прозвішчы Даўгяла (корань «доўгі») ці Юркойць (ад Юркі). А вось Гедройць — цалкам балцкае найменне, якое пазначае таго, хто нечым праслявіўся.

### БЕРМАНЫ І ДЗЕРМАНЫ

Уплывы маглі быць не толькі балцкія. Сярод экзатычных — нямецкія. Часцяком нямецкі панкаланіст запісваў усіх сваіх сялянаў уласным прозвішчам, каб абазначыць гэтым права на ўладанне імі. Так з'явіліся Берманы, Дзерманы. Магчыма, так перараджаліся і некаторыя старыя балцкія прозвішчы (Шэйман).

### НЕЛЮБЫ І ПАЗНЯКІ

Многія прозвішчы паходзілі ад мянушак і дахрысціянскіх імёнаў.

Людзей тады называлі проста. Нарадзіўся апошнім у сям'і — будзеш Пазняк.

Бывалі імёны татэмныя — ад звера ці дрэва, якому племя пакланялася (так, у летапісах трапляюцца Воўк, Воўчы Хвост), былі імёны ахоўныя, пакліканыя «падмануць» злыя сілы — Нелюб (каб любілі), Дыхля (каб здаровы быў).

Царква, выціскаючы паганства, змушала замяняць старыя імёны на хрысціянскія (у летапісах сустракаем прыклад літоўскіх князёў — Вітаўт рабіўся Аляксандрам, Ягайла — Уладзіславам).

### СКАРЫНЫ І ГОЎШЫ

Дый Скарына — не ад скарынкі, кажа прафесар Лемцюгова, а ад Скарына — скарочанага старажытнага імя, тыпу Скараслаў, Скарагост, Скаравой, Скарамір. Частка прозвішчаў — такія добра забытыя імёны, накшталт Гоўша, Дымша.

Пераходзілі ў прозвішчы і скарочаныя формы: Мечык, Віліч, Стасік... Нават такое, здавалася б, відавочнае прозвішча Трус — скарочанае ад Пятро, Пятрусь. Місюта, аказваецца, — размоўны варыянт царкоўнага імя Міхаіл. Масу варыянтаў мае Аляксандр. Самыя экзатычныя з іх — Шаша, Шоша.

Але Валянціна Лемцюгова перасцерагае: даследаванне гісторыі кожнага прозвішча вымагае індывідуальнага падыходу, міні-даследавання. Верыць у сямейныя легенды і тлумачэнні, якія, здавалася б, ляжаць на паверхні — небяспечна.

Тут як з назвамі населены пунктаў: Шапчыцы — не ад шапкі, знойдзенай там, а ад нашчадкаў чалавека з такой мянушкай. Пількаўшчына — не ад пілаў, якія ламаліся, а ад імя ўласніка зямлі, якога звалі Пілька, Піліп.

### КУХТЫ І СТЭЛЬМАХІ

Наступная пасля патранімічных па колькасці група прозвішчаў з Попісу Гродзенскай каралеўскай эканоміі — ад асаблівасцяў выгляду: Коўш, Чарэпка, Казелак... Безумоўна, не трэба абмінаць і прозвішчы, звязаныя з заняткам чалавека. У XVI ст. іх працэнт быў невялікі, але з часам Стэльмахі (у «Слоўніку паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» Стэльмах — той, хто робіць калёсы, калёснік), Рымарчукі (рабілі вупраж), Бондары (выраблялі цэбры), Мясніковічы (былі рубшчыкамі мяса) з'яўляюцца ўсё часцей і часцей, адзначае А.Вашкевіч.

Тое самае паходжанне ў прозвішча Кухто, лічыць Валянціна Лемцюгова. Кухта — гэта памочнік кухара. А націск на -о ў такіх прозвішчах з'явіўся ад пазнейшага, часоў Расійскай імперыі, імкнення надаць ім «благозвучность». Тады з'явіліся Лапато, Капусто, Лапо, Дынько і ім падобныя.

Цікавая гісторыя прозвішча Цароў. Адкуль у Беларусі «цар»? Аказваецца, на Магілёўшчыне так называлі старшага валачобніка, які меў упрыгожаную бліскучую шапку.

### РАБІНОВІЧЫ З'ЯВІЛІСЯ АПОШНІМІ

Найпазней жа ў Беларусі, адзначае А.Вашкевіч, прозвішчы з'явіліся ў габрэяў-гараджан. Улады Рэчы Паспалітай не ўмешваліся ў жыццё габрэйскай грамады, адносіны з ёю абмяжоўваліся атрыманнем падаткаў, якія збіраў сам кагал. Напрыклад, з дванаццаці габрэяў, якія мелі пляцы ў 1704 г. у мястэчку Сапоцкін, прозвішчы мелі толькі шасцёра. Прычым прозвішчы яўна паходзілі ад мянушак, звязаных з выглядам, — Іцка Вясло або Азік Чарток. А калі царская адміністрацыя пачала браць габрэяў у рэкруты, забіраць дзяцей у кантаністы, пачалося прымусовае наданне беларускім габрэям прозвішчаў, прычым часта па той самай схеме, што і ў беларускіх сялян за трыста гадоў да таго. Так з'явіліся Абрамовічы, Іцквічы, Абковічы або Зельманавічы. А Рыўкіны, Соркіны, Рохліны — па імёнах жанчын, маці. У беларусаў такое здаралася радзей, а вось ва ўкраінцаў — даволі часта: Андрусішын, Васілішын, Стэфанішын, Байчышын (ад Андрусіха, Васіліха, Стэфаніха, Бойчыха, г.зн. жонка, удава Андруся, Васіля...).

### РЭХА ПРЫГОНУ ЦІ ПОСТУП ПРАГРЭСУ?

Нашыя прозвішчы — вынік індывідуальнага прыгону, які запанаваў на землях ВКЛ з часоў Валочнай памеры, — лічыць Андрэй Вашкевіч. — Там, дзе не было індывідуальнай залежнасці ад пана, не было патрэбы ў прозвішчах. Яскравы прыклад — балгары, у якіх толькі ў сярэдзіне XX ст. замацаваліся прозвішчы. У захопленай асманамі Балгарыі селянін быў вольны, арандаваў зямлю ў дзяржавы і плаціў падатак — харадж. Патрэбы замацоўваць прозвішчы не было, і яго функцыі выконвала імя па бацьку. Іван Кольеў быў сынам Колі, а ўжо сын Івана быў не Кольевым, а Іванавым. Да сёння ў Еўропе захавалася краіна з сістэмай прозвішчаў, утвораных ад імя бацькі, — Ісландыя, дзе ад часоў засялення вікінгамі панавала дэмакратыя.

Але як у такім выпадку быць з Расіяй, дзе, сцвярджаюць гісторыкі і моваазнаўцы, сялянскія прозвішчы замацаваліся толькі ў XIX ст., а прыгон быў яшчэ больш жорсткі, чым у ВКЛ?

Беларускія прозвішчы на трыста гадоў старэйшыя за расійскія. У Масковіі прозвішча да XVI ст. было прывілеем князёў і баяраў. А прозвішча на -іч давалася толькі з дазволу вялікага князя. У «Тысяцкай кнізе» 1550 на тысячу чалавек такія прозвішчы мелі толькі 28. Рэшта прозвішчаў — на -оў або на —ін. У Беларусі такога не было. У XVI—XVII стагоддзях прозвішчы пачалі з'яўляцца ў асяроддзі дваран. У XVII—XVIII стст. — у гараджан, у к.XVIII — п.XIX стст. — духавенства. Сяляне не мелі прозвішчаў да сярэдзіны XIX ст.

Нашыя прозвішчы — каштоўны скарб. Ім як мінімум 450 гадоў. А гэта значыць, што насілі іх да нас дзясяткі і нават сотні тысяч людзей, і трэба быць вартымі іх памяці.

**Паводле nn.by**

# ПОЛОВЕЦКИЕ ПОСЕЛЕНИЯ НА БРЕСТЧИНЕ

**Группа деревень с населением половецкого происхождения в течение ряда столетий являлась ядром Половецкой волости и Половецкого церковного прихода, по дореволюционному административному делению расположенных в северной части Брестского уезда Гродненской губернии.**

После Великой Отечественной войны (1941-1945 гг.) бывшие половецкие села разделены государственной границей между СССР и ПНР. К Польше отошли деревни: Ставища, Половцы, Вулька-Тереховская. В СССР (Каменецкий район Брестской области) остались: Песчатка (Половецкая), Хлевищи, Терехи, Суходол, Голя. Последняя в 1964 году переименована в Пограничную.

Польский историк Ярошевич (1844) первый заинтересовался этими селами. Он писал: «Кроме деревни и имения Половцы, жители деревень: Сухоры, Ставища, Хлевища, Песчатка, Голя, Суходол, Вулька Половецкая называются населением окружающих сел половцами, которые, однако, ничем уже не рознятся от своих соседей русинов». Сам Ярошевич родился и провел молодые годы в Бельске (Подлясском), расположенном в 30 км севернее половецких сел. Приведенные им сведения ценны как результат его непосредственных наблюдении, осуществленных более ста лет тому назад, когда память о половецком происхождении еще сохранялась в этих селах.

Изложенные Ярошевичем факты были повторены русскими исследователями Бобровским (1863) и Н. Дашкевичем (1873), которые не добавили к ним ничего нового.

В первой половине XIII века владетелями Западной Руси были Даниил Романович Галицкий и его брат Василько, князь Владимиро-Волынский. В состав владений последнего входила Берестейская земля. В Ипатьевской летописи не раз говорится о наличии половцев в войсках Даниила и его брата Василька, а также об участии их в походах, предпринимаемых этими князьями. Записи о половцах встречаем под 1243, 1245, 1249, 1252 годами.


Половцы ведут в полон изнемогающих русских пленников. Миниатюра Радзивилловской летописи



В последней, упоминающей половцев под 1253 годом, сказано: «Данило же поиде с братом Васильком и со сыном Львов и с половци со сватом своим Тегаком...».

Полагаем возможным сделать вывод, что спасаясь от монголов, хан Тегак бежал к своему свату Даниилу Романовичу в Галицко-Волынскую Русь и привел с собой подчиненных ему по половцев, которые были расселены в разных местах княжества.

Местность, в которой расположены села, служащие темой настоящего исследования, вполне соответствовала исторической и политической обстановке, сложившейся в XIII в. на северных окраинах Волынского княжества. Земли эти лежали опустошенными со времен Романа, отца Даниила, и половцев целесообразно было поселить на пустующих северных рубежах, используя их как заслон от частых ятвяжских и литовских нападений.

В интересующей нас местности основным топо- и этнонимомом служило племенное имя «половец». Оно нашло отражение в названиях деревни и имения Половцы, церковного прихода Половецкий; в административных понятиях - половецкий десяток, половецкая волость и войтовство. Кроме топонима «половцы», в старых документах и народной традиции встречаем также этноним «половец». Так, в судебном решении 1516 года читаем: «Люди господарские Бельского повета половчане...».

Прозывание жителей половецких сел населением соседних с ними деревень «половцами» наблюдалось еще в начале XX века.

Так называли суходольцев и голянцев их соседи из Волкович, расположенных в 5 км южнее Голи. Также звали суходольцы жителей Голи. В последнем случае сказалась народная память о прежнем названии этой деревни - Половцы (до конца XVII века). На Половетчине встречаем тюркско-половецкие топонимы в названиях урочищ. Одно из них знаем из записи 1512 г., это жеребий Казикаловский в Половецком десятке.

В описании границы села Писчанка с селом Зубачи находится «врочище Бачино-Селище». На землях Песчатки-Половецкой при дороге в Пограничную (Половцы, Голя) расположено урочище, сохранившее до наших дней в своем названии - «Боняк», имя известного половецкого хана.

Среди других сведений, содержащихся в используемой нами ревизии Берестейского старостства 1556 года, поданы также личные имена и патронимы (отчества, прозвища) населения Половецких сел, среди которых встречаем имена половецкого (тюркского) происхождения.

В селе Половцы (Голя, Пограничная) ими будут имена Хонко и Конах и патронимы - Хонкович и Корманович. Среди жителей Писчанки (Песчатки Половецкой) встречаем три тюркские патронима: Кобакович, Колкович, Кодатович. В селе Хлевиском (Хлевищи) среди русских имен и отчеств сохранилось половецкое имя Курган и патроним Кодакович. У жителей села Суходолы встречаем только один тюркский патроним Кавтилович.

В настоящее время в половецких селах только две фамилии имеют тюркское звучание - одна из них Колток из Песчатки, другая - Бегеба из Пограничной (Голи).

Следует указать, что отдельные географические названия и фамилии с тюркскими корнями встречаются в разных местностях Каменецкого и Пружанского районов Брестской области.

*Паводле Алексеюк М.И. Половецкие поселения на Брестчине, Этногенез белорусов.*

# ЧАМУ НЕЗАЛЕЖНАЯ - НЕ ЗНАЧЫЦЬ БЕЛАРУСКАЯ?

**Канец 1980-х – пачатак 1990-х гадоў і дагэтуль застаецца перыядам, які часцей за ўсё абмяркоўваецца ў сучасным беларускім грамадстве і выклікае абсалютна процілеглыя меркаванні. Адна з нявырашаных праблем, на якую за два дзесяцігоддзі так і не знайшлося адказу – чаму партыйнай эліце не была патрэбная незалежнасць. Сапраўды, чаму кіраўніцтва Беларусі не падтрымала ідэю незалежнасці?**



Пётр Міронавіч Машэраў

Прасцей за ўсё абвінаваціць іх у кансерватыўнасці, пасрэднасці, адсутнасці стратэгічнага мыслення і г.д. Але такі ход выглядае занадта прасталінейным. Насамрэч, усё выглядае цікавей і адначасова прасцей.

Для таго, каб знайсці адказ на пытанне, варта перанесціся ў канец 1970-х – пачатак 1980-х гадоў. Большасць кіруючых пасадаў у Беларусі тады займалі ***прадстаўнікі "партызанскага пакалення".*** Найбольш вядомымі сярод іх былі К. Мазураў, П. Машэраў, Ц. Кісялёў, С. Прытыцкі, І. Палякоў і іншыя. Яны прайшлі ў маладосці праз партызанскія атрады або ваявалі на фронце, былі вылучаны на партыйную працу пасля вайны і з прыходам на пасаду першага сакратара Кірыла Мазурава (1956) паступова занялі у Беларусі ўсе найбольш істотныя пасады.

Яшчэ з пасляваенных гадоў галоўная ўвага ў айчыннай эканоміцы надавалася прамысловасці. Менавіта падчас кіравання "партызан" пачалося будаўніцтва шэрагу буйных прамысловых аб'ектаў, а рэспубліка пераўтварылася ў зборачны цэх для усяго СССР. Парадокс, але пры гэтым "партызаны" куды лепш разбіраліся не ў прамысловасці, а ў сельскай гаспадарцы. Самі яны паходзілі з вёсак, прычым выхоўваліся ў адносна беларускамоўным асяроддзі. Так, тагачасныя палітычныя забабоны не давалі ім нават тэарэтычных магчымасцяў для правядзення беларусізацыі. Але не перашкаджалі дэманстраваць асабістае станоўчае стаўленне да прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі. У гэтым, бадай, адна з прычын таго, чаму дзеянні "партызанскіх" лідараў ***атрымалі станоўчую ацэнку ў айчыннай мемуарыстыцы.***

Але, паўтаруся, у прамысловасці "партызаны" не былі спецыялістамі. Таму за практычную распрацоўку рашэнняў у гэтай сферы адказвалі гаспадарнікі. Адной з найбольш уплывовых у іх асяроддзі з'яўлялася так званая "мінская гарадская індустрыяльная група" (тэрмін прапанаваў амерыканскі даследчык Майкл Урбан). Прадстаўнікі апошняй, якія нарадзіліся за дзесяцігоддзе да вайны, прайшлі школу буйных прамысловых прадпрыемстваў, працавалі не столькі ў партыйных камітэтах, колькі на вытворчасці. Напрыклад, Мікалай Слюнькоў, нефармальны лідар групы, толькі два гады з'яўляўся першым сакратаром мінскага гаркаму. Большая частка яго кар'еры прайшла на Мінскім трактарным заводзе і ў агульнасаюзным Дзяржплане.

На пачатку 1980-х гадоў у Савецкім Саюзе, як і ў Беларусі, былі відавочныя прыкметы эканамічнага крызісу. Узяцца за выпраўленне сітуацыі на месцах павінны былі спецыялісты ў гэтай сферы – гаспадарнікі. (Паколькі ўладу ўсё задавальняла ў грамадска-палітычнай сферы, ніхто не прапанаваў ідэолагам узяць стырно ў свае рукі). 11 студзеня 1983 года памёр першы сакратар Камуністычнай партыі Беларусі Ціхан Кісялёў. ***Амаль імгненна, праз суткі*** на яго месца быў прызначаны Мікалай Слюнькоў.

Менавіта Мікалай Мікітавіч (зразумела, са згоды цэнтральнага кіраўніцтва) правёў адну з самых маштабных кадравых чыстак, што зведала Беларусь у мінулым стагоддзі. За кароткі час Слюнькоў выдаліў з вышэйшага кіраўніцтва ўсіх патэнцыйных канкурэнтаў (***каго адправіў на пенсію, каго на дыпламатычную працу***). Ключавыя пасады сакратара ЦК КПБ па прамысловасці, кіраўніка рэспубліканскага Дзяржплана, пазней прэм'ера занялі прадстаўнікі "мінскай гарадской індустрыяльнай групы", якія затрымаліся ва ўладзе дзесяцігоддзе, да 1994-га. Амаль адначасова прайшла чыстка Міністэрства ўнутраных спраў. Цікава, што МУС узначаліў Віктар Піскароў, які ў 1970-я гады працаваў са Слюньковым і ўзначальваў упраўленне ўнутраных спраў Мінскага гарвыканкаму. Характэрна, што нават пасаду сакратара ЦК КПБ па ідэалогіі заняў "гаспадарнік" – Валерый Пячэннікаў.

"Мінская гарадская індустрыяльная група" сапраўды здолела нармалізаваць справы ў эканоміцы (зразумела, у кантэксце агульнасавецкай сітуацыі). Таму ***эканамічны крызіс прыйшоў у Беларусь пазней, чым у іншыя савецкія рэспублікі*** (у гэтым, дарэчы, адна з прычын слабой актыўнасці насельніцтва ў перабудовачных працэсах). Але ў ідэалагічнай сферы назіралася адваротная сітуацыя. Так, большасць прадстаўнікоў гэтай групы нарадзілася ў вёсцы. А вось адукацыю і першыя прафесійныя крокі яны зрабілі ў гарадах, дзе дамінавала менавіта руская мова. Таму большасць з іх ставілася да мовы як да рудымента, які з часам абавязкова знікне. Таму не дзіўна, што заклікі да абуджэння нацыянальнай свядомасці не маглі не выклікаць у іх нічога іншага, як устойлівую алергію.

Зразумела, існуе вялікая ***спакуса параўнаць станоўчых "партызан" і дрэнных мінскіх "гаспадарнікаў"***. Неаднаразова даводзілася сустракаць у друку іх супрацьпастаўленне, а таксама думкі, што калі б Пётр Міронавіч затрымаўся на сваёй пасадзе, гісторыі Беларусі развівалася б у іншым кірунку. Але маё меркаванне цалкам супрацьлеглае. Як ні дзіўна гэта прагучыць, прыход "мінскай гарадской індустрыяльнай групы" з'яўляўся заканамерным і ў нечым нават адносна прагрэсіўным крокам для Беларусі. Чаму?

Якімі б станоўчымі якасцямі гісторыкі ні надзялялі "партызан", апошнія былі абсалютна савецкімі людзьмі, якія і падумаць не маглі пра самастойнасць і незалежнасць. Так, "гаспадарнікі" нібыта таксама супраціўляліся суверэнітэту Беларусі. Але хачу звярнуць увагу на вельмі істотны момант: гэта непрыняцце мела месца на духоўна-ідэалагічным, а не на эканамічным узроўні. Як і ў марксізме, іх быццё вызначала свядомасць. Так, прадстаўнікі мінскай групы таксама былі савецкімі людзьмі, якія ***не атаясамлялі сябе з нацыянальнай культурай.*** Але на працы ім увесь час даводзілася сутыкацца з канкрэтнымі гаспадарчымі пытаннямі. Між тым, ступень цэнтралізацыі у тыя часы была надзвычай высокай. Напрыклад, на ўзроўні Палітбюро магло вырашацца, колькі кінатэатраў можа працаваць у Адэсе. Таму ў "гаспадарнікаў" пакрысе з'яўлялася імкненне да пэўнай самастойнасці ў эканамічных пытаннях. Узнікаў своеасаблівы эканамічны патрыятызм.

Гэта праяўлялася ў розных сітуацыях. Напрыклад, будучы прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч, які ў 1980-я займаў шэраг адказных пасадаў у апараце ЦК КПБ, а потым узначальваў рэспубліканскі Дзяржплан, настойліва супраціўляўся спробам перавесці яго ў Маскву. Бо ўсведамляў, што там ***будзе пятым колам у возе, а тут зможа рэальна ўплываць на справы***. Або Мікалай Слюнькоў, які ўвайшоў у склад гарбачоўскага Палітбюро, у канцы 1980-х прапаноўваў дэцэнтралізаваць вытворчасць і ўтварыць у РСФСР 6-7 рэгіёнаў, якія б мелі ўсю паўнату гаспадарчай улады і роўныя правы з саюзнымі рэспублікамі. Нягледзячы на тое, што яго выказванні датычыліся толькі Расіі, прыняцце такой праграмы відавочна змяніла б характар функцыянавання эканомікі ўсяго Саюза.

Таму Вячаслаў Кебіч (як прадстаўнік "мінскай гарадской індустрыяльнай групы") і парламенцкая большасць у Вярхоўным Савеце 12 склікання, пайшлі, адпаведна, на падпісанне і ратыфікацыю Белавежскіх пагадненняў, кіруючыся ***не прагай да незалежнасці, а сваімі прагматычнымі разлікамі*** (эканамічным патрыятызмам і імкненнем самім вырашаць рэспубліканскія гаспадарчыя пытанні). І пакуль рэс адбываўся ў гэтым рэчышчы, падтрымлівалі пераўтварэнні (як і культурныя ініцыятывы, якія не падрывалі асноў тагачаснага грамадства). Але як толькі ўзнікла магчымасць дасягнуць незалежнасці ў свядомасці людзей, рэзка павярнулі назад. У гэтым і заключаецца як гістарычнае значэнне, так і ***абмежаванасць пакалення 1980-х гадоў.***

У той сітуацыі Беларусі ***не хапіла палітыкаў іншага пакалення***, якія, кіруючыся або рамантычнымі, або прагматычна-кар'ернымі пранцыпамі, забыліся пра ўласнае палітычнае мінулае і зрабілі стаўку на нацыянальныя лозунгі. Такім шляхам пайшлі лідары большасці былых савецкіх рэспублік (Гейдар Аліеў, Нурсултан Назарбаеў, Эдуард Шэварднадзэ і іншыя). Парадокс, але ці не адзіным такім палітыкам у Беларусі з'яўляўся сакратар мінскага гаркаму, а потым першы міністр замежных спраў Пётр Краўчанка.

Дык можа ўся справа ў кадравых зменах пачатку 1980-х гадоў? Але прыход ва ўладу "гаспадарнікаў" з'яўляўся агульнасавецкай тэндэнцыяй. На сітуацыю ў рэспубліцы паўплывалі працэсы русіфікацыі, якія пачаліся задоўга да прыхода ва ўладу "мінскай гарадской індустрыяльнай групы". Але менавіта дзеянні апошніх заклалі падмурак для далейшага развіцця сённяшняй Беларусі.

**Паводле: budzma.org**

## ДАРЭЧЫ

### МЫ І ЯНЫ

Мы называем «Беларусь», яны называюць «Белоруссия».

Мы спяваем «Я нарадзіўся тут», яны — «Широка страна моя родная».

Мы кажам «мадэрнізацыя эканомікі», яны — «пятилетку в четыре года».

Мы кажам «нацыянальная ідэя», яны кажуць «чарка і шкварка».

Мы называем гэта «дыктатура», яны кажуць: «За стабильную Беларусь!».

Мы кажам «страшная трагедыя Другой сусветнай вайны», яны — «великая победа советского народа в Великой отечественной войне».

Мы называем гэта «наш бел-чырвона-белы сцяг», яны — «незарегистрированная символика».

Мы ўсклікаем «Жыве Беларусь!», яны кажуць — «размахивал руками, ругался матом и выкрикивал антиправительственные лозунги».

Мы кажам «недзяржаўныя грамадскія арганізацыі», яны кажуць «пятая колонна».

Мы кажам «незалежная прэса», яны кажуць «нячэсныя журналісты».

Мы пішам «у нас значныя праблемы», яны кажуць «дискредитация Республики Беларусь».

Мы кажам «Беларусь у Еўропу!», яны кажуць «мы за цивилизованным миром наш народ не поведём».

Мы называем гэта «бальшавіцкі тэрор», яны — «это наша история».

Мы называем гэта «этнацыд», яны — «перегибы на местах».

Мы называем гэта «народны мемарыял у Курапатах», яны — «Бульбашъ-холл».

Мы кажам «агульнаеўрапейская гісторыя», яны «линия Сталина».

Мы называем гэта «права на памяць», яны — «несанкционированный митинг».

Мы кажам «кніжкі па гісторыі», яны кажуць — «экстремистские издания».

Мы называем гэта «паўстанне Кастуся Каліноўскага», яны — «польский мятеж».

Мы кажам «Мураўёў-вешальнік», яны — «талантливый администратор».

Мы кажам «выбарны парламент», яны кажуць «каждая кухарка может управлять государством».

Мы называем гэта «чарнобыльская трагедыя», яны — «мирный атом».

Мы кажам «Астравецкая атамная станцыя — гэта злачынства!», яны кажуць «создание новых рабочих мест — это хорошо».

Мы кажам «роўныя магчымасці на выбарах», яны — «избирательные комиссии сформированы из опытных людей».

Мы кажам: «фальсіфікацыя выбараў», яны кажуць «наблюдатели от СНГ нарушений не зафиксировали».

Мы кажам «мясцовае самакіраванне», яны — «вертикаль и губернаторы».

Мы кажам «самабытнасць мястэчак», яны кажуць «развитие агрогородков».

Мы кажам «развіваць малое і сярэдняе прадпрымальніцтва», яны — «давить, как вшивых блох».

Мы кажам «новае прыгоннае права», яны — «контрактная система».

Мы кажам «Балтыйска-чарнаморскі звяз», яны — «а у нас расійскі газ».

Мы кажам «шматканфесійная краіна», яны кажуць «государство и церковь едины».

Мы кажам «Не — смяротнаму пакаранню!», яны — «террористический акт раскрыт рекордно быстро».

Мы кажам «бязвізавы ўезд», яны — «единое таможенное пространство».

Мы кажам «адкрытасць межаў», яны кажуць «редкая птица долетит до середины Буга».

Мы кажам «матчына мова», яны — «великий и могучий».

Мы называем гэта «знішчэнне беларускай мовы», яны — «равноправие двух государственных языков».

Мы кажам «ахова помнікаў архітэктуры», яны кажуць «упорядочение территории».

Мы кажам «старая брукаванка», яны — «новая губернаторская плитка».

Мы кажам «талака», яны «ленинский субботник».

Мы кажам «давайце паставім хоць адзін помнік Льву Сапегу», яны — «У нас есть много памятников Ленину».

Мы кажам «беларускі тэатр», яны — «Славянский базар».

Мы кажам «п'яны мужык», яны — «неустановленное лицо предположительно мужского пола, вероятно находящееся в состоянии алкогольного опьянения»…

А вы кажаце — браты…

Уладзімір Хільмановіч, «Гарадзенская вясна»



*Па гарызанталі:*

2. Першая жанчына.
5. Дрэва, на якім дрыжыць лісце.
7. Прылада для дранікаў.
8. Першы мужчына.
11. Неабходна, каб скокаць з вялікай вышыні.
12. Скура дрэва.
14. Не дабро.
15. Вядомы парны танец.
16. Псаванне чагосьці і марка аўтамабіля адначасова.
17. Самая выбітная частка твару.
19. Фізічнае ўдзеянне.
21. Памяшканне для збожжа.
22. Скруглены праход у сцяне.
24. Шмат-шмат вады.
25. Кручок для вопраткі.
26. Насякомае з тонкім станам.

*Па вертыкалі:*

1. Паверхня зямлі, намаляваная на паперы.
3. Стары месяц.
4. Моцнае жаданне.
6. Чалавекападобная малпа.
7. Смачная ягада.
9. Птушка, якая спявае нібы флейта.
10. Прымушае машыну рухацца.
12. Месца продажу і вядомы рок-гурт.
13. Там бабулькі прадаюць ураджай.
18. Яго неабходна пазначыць, каб дайшла пошта.
20. Аладзін (з мультфільма) па нацыянальнасці.
23. Не нага.

dzietki.org

Дзедзіч ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
• **Заснавальнік:** ініцыятыўная група моладзі
• **Распаўсюджваецца бясплатна**
• **Падпісана ў друк** 20.05.2013 года у 18-00
• **Папера** афсетная, фармат А4, 1,5 ул.-друк. аркуша,
• **Гарнітура** Helios
• Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі

**Галоўны рэдактар:** Дзмітрый ШЫМАНСКІ.
**Рэдакцыйная калегія:** Ю. Мікалаева, А. Каховіч, П. Дайлід, У. Красько, А. Трус. **Адказны за выпуск:** Вольга ЯРАМЧУК.
• **Кантактныя тэлефоны: (029) 660-57-41, (029) 724-21-16.**
• **E-mail:** dzedzich@dzedzich.org. **Інтэрнэт:** www.dzedzich.org
• Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
• Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
• **Наклад** 299 асобнікаў

**№5(83) • ТРАВЕНЬ 2013**